і спрытнейшым за другіх, каб яна бачыла яго здольнасьці і цаніла. Першую дзяціннную польку ён танцаваў з ёй доўга, аж покуль сама Коломбіна ні сказала, што больш ні хоча, бо закруцілася галава.

І ўсё ж!..

Калі пястуючыя, як лясная вясенняя песьня, згукі закруцілі дробненькія, дзівачныя, аблітыя рожнакалеровым сьветам фігуркі у плаўным чароўным вальцу,—Пьеро адзін ні круціўся, а стаяў і горка плакаў.

Коломбіна,—яго Коломбіна, вясёлая, шчасьлівая, саўсім другая, а ні такая, як з ім,—танцавала, крышачку адкінуўшы назад галаву, моцна і ўфна апіраючыся на руку нейкаго золатавалосаго маркіза у кароткай, понсоваго колеру, апончы і с шпагай пры б[…]ку.

Дзівуючыся з-за густой ліствы цяпліччнаго лаўру на гэтую пару, на сваю—ні яго—Коломбіну, Пьеро плакаў.

Бедны Пьеро!..

---

# Казка зімовай ночы.

Дзе тут небо? Дзе зямля?
Вея стогне. Вея плача.
Дзе тут вёскі? Дзе паля?
Гурба—дуба, гурба скача.

Нібы страшны, строгі дзед,
Напускае ўсюды чары.
Заметае Нечысьць сьлед.
Бель-белюткі даль-абшары.

Ведзьмы клічуць тайны сход,
Сход-вяселле дзікай ночы.
Ведзьмы ладзюць карагод
І пускаюць дым у вочы.

Ні ідзі ты, брат, цяпер:
Зарагочуць-заласкочуць.
Будуць клікаць: ім ні вер,—
С сьвету зьвесьці шчэ захочуць.

Ні ідзі ты пад віхор,
Ганна-кветка, з роднай хаткі:
Там угледзіш бел-шацёр,
Там пачуеш голас маткі.

Там зазвоніць нібы звон,
Там зазьяе нібы мілы,
Стане песьціць нібы «ён».—
То благія, злыя сілы.

Ты да бору дабяжыш,
Бура зараз-жа дагоніць.
Ты стаяла—ты ляжыш,
Над табою бор гамоніць...

Бор гамоніць над табой
Аб тваёй жа горкай долі
І хавае над сабой,—
Ні устанеш ты ніколі...

Вея стогне. Вея ў плач.
Вея мчыцца ў даль бяз конца.
Галіною дуб-сілач
Дзінь, дзінь—звоніць у ваконцо.

Дзін, дзін—звоніць. Праз вакно
Бачны тварык малалеткі.
—«Сьнегам вёску запясло...»
—«Што ты, любка! Што ты, дзеткі!»

А у хатцы, бач, тапчан.
На тапчані тым бабулька.
Да дзяўчынкі кажа: «Глянь,
Кот свой тварык мые, Юлька!»

На пяколку кот сядзіць.
—«Падарожных кот чакае».
І бабулька зноў маўчыць
Ды на хату паглядае...

А у хатцы ёсьць куток.
У куточку ёсьць лампадка.
Пад лампадкай—абразок,
Абразочак Божай Маткі.

А лампадка то блысне,
Асьвечае цэлу хату.
Вазярункі на вакне
Дзіўнай фарбай так багаты.

Бы галінкі рэчных лоз,
Бы лілеі з дыямэнту.
Лье крапінкі дзед-мароз,—
Ні шкадуе атрамэнту.

Вось лампадкі аганёк
Раптам зьмеркне на хвілінку,—
Атуляе кут цянёк,
Атуляе ўсю хацінку.

Блыск залёны у вачох
У мурлыкі. Сьпіць старая.
Сумна-сумна па кутох...
—«Матка Божа як жывая...

—«Як жывая... Далі Пан!»—
Кажа Юлька: «Ці вы чулі?!»
Скача з жаху на тапчан
На ратунак да бабулі.

—«Ляж ты, дзеткі, лепей спаць.»
—«Ні хачу, бо натта рано,—
Прынясе мне цукру маць,
Шмат дастане там ад пана.

«Буду позна тут сядзець,
Ні пайду я рано спаткі,—
Мне сукенку прывязець
Мілы, родны, добры татка.»

—«Родна маці з маскалём
Закруцілась,—дык маўчы ты!
Родны тата пад агнём
У акопах сьпіць забіты...»

Юлька плача. Да вакна
Гурбу сьнегу навярнуло.
—«Бабка, бабка, зноў Яна...
Матка Божа зноў зірнула...»

—«Ні кажы так, ні кажы,»—
Прабірае страх бабульку.
—«Ты язык свой прыкуçі...»
Суцімае бабка Юльку.

—«Маці Божа, ой, глядзіць
На мяне, во, добрым вокам
Бачыш, ажно зіхаціць...»
—«Дзіўна кажаш, ні нарокам.»

І бабуля крыж кладзе,
Крыж—рукою на хаціну.
—«Матка Божа, я у бядзе:
Сірату я дзе пакіну?..»

А лампадка на абраз
Цень кідае, або зьяне.
Усьміхнецца кожны раз
Матка Божа. С кута гляне...

Зварухнецца тварам штось,
Ясны вочы, нібы зоры.
І, здаецца, во-во-вось
Па-дзявочы загавора.

А віхоры за сьцяной
Рвуцца ў дзьверы, пруцца ў комін.
Па ведзьмарскі чорны рой
Усё спраўляюць дзікі помін.

На пяколку загадзя
Уся сямейка легла спаці:
Кот, бабулька і дзіця.
Асталася Божа Маці.

С-пад лампадкі чуць зірне
Сумным вокам на пяколак
І гаворыць з дзіцем ў сне
Аж да ранняя... Вось і золак.

Колькі сьнегу панясло!
Нібы мармур, нібы гмахі.
Выглядае ўсё сяло.
Разляцеліс чары-страхі.

Нібы белы, лёгкі пух,
Пава[…]ла зьяюць белі.
Нібы Сам тут Сьветлы Дух
Расьцілае бель-насьцелі.

Бель-пасьцелі на зямлі
Для анёлаў Ойца-Бога,
Каб анёлы тут былі
Маць-Зямельцы ў дапамогу.

Вабіць, кліча мара-даль.
Тройка з лесу шпарка мчыцца.
Лёд на рэчцы, як хрусталь.
Пачынае лес маліцца...

Міяс 29/ХII—1917. *Ясакар.*

---

**К. Вясёлы.**

# Ні розумам сьцяміу, а сэрцам.

*(Пьеса з вясковаго жыцця на 4 акты).*

(Гляд. № 2.)

**Зьява XI.**

*(Наста і брат).*

*Брат.* Як маешся, сястрыца!

*Наста.* Як маешся, брацейка!

*Брат (Агглядаючы яе).* А чаго ж гэта, сястрыца мая, такая сумная? *(Вітаюцца і цалуюцца).*

*Наста.* А мой брацейка, а мой міленькі,—табе-ж пісалі ужо, што мяне замуж аддаюць. Надаела я татку майму роднаму,—аддае мяне за ні любаго, за нямілаго.

*Брат.* Дык вонь яно што! А я гляджу, чаго Грышка выбяг с хаты, як апечаны. *(Пасьміхаецца).* Ну, нічога, супакойся. Гэта мы палагодзім. Дык бацька за ураднiка цябе хоча аддаць?

*Наста.* За ураднiка. Тата усе хоча, каб я панай была, а мне гэтае панство горш дамавіны...

*Брат.* Так. А гэты маскалік спадабауся? Дауно ен вярнууся?

